# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1970
Студзень-
Люты

Год XVIII
№ 1 (118)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1970 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE, HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.

ON GOD'S HIGHWAY

Year XVIII January—February № 1 (118)
1970

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVIII СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ 1970 № 1 (118)


## „На зямлі мір...“

Эвангельле паводле Лукі гаворыць (2, 12—14), што пастухом «зьявілася вялікае войска нябеснае, славячы Бога» і анёлы сьпявалі: «Слава на вышынях Богу, а на зямлі мір для людзей добрай волі».

Але цяпер на зямлі няма міру, бо ня споўненыя ўмовы для міру: сьвет не дае «славы Богу» і ня мае ў сябе «добрай волі». Сапраўды, вера ў Бога аслабела — (атэізм і бязбожнасьць — у камуне, абыякавасьць — у капіталізьме) — і разам з тым падупала ў людзей «добрая воля»: запанаваў эгаізм і матэр'ялізм.

У рэзультаце маем у наяўнасьці тры цяжкія зацягнутыя войны — Вьетнам, Нігерыя-Біяфра і жыдоўска-арабская . . . Апрача таго нямала ёсьць краёў, дзе людзі прыгнечаны дыктатурай, або дзе мацнейшыя суседзі адабралі слабейшым свабоду, або дзе капітал крыўдзіць беднякоў, як гэта дзеіцца ў Паўдз. Амэрыцы.

А да ўсяго ліха яшчэ заіснаваў падзел сьвету на Ўсход і Захад, якія збраяцца ў аружжа, што пагражае загубай ўсяго жыцьця на сьвеце. Ды і тыя *тры войны* — гэта ёсьць арэна, на якой фактычна змагаюцца з сабой Усход і Захад: там ідзе ўкрытая канкурэнцыя між Амэрыкай і Савецкім Саюзам, што можа давесьці да выбуху вялізарнай 3-яй вайны — атамнай вайны — з усімі яе вынікамі, з сусьветнай катастрофай!

Якія сілы ўпутаныя ў гэтую пагрозу? — Магутнасьць абедзьвюх старон і немагчымасьць згаварыцца, бо ідэалёгія адных і другіх разыходзіцца вельмі далёка. І тым страшней для сьвету, што вырашэньне спрэчак знайшлося ў руках толькі двух асобаў: прэзыдэнта Амэрыкі і партыйнага сакратара Сав. Саюзу.

Гэта найлепш паказаў цяпер б. прэзыдэнт Амэрыкі Джонсон: ён прызнаўся, што меў магчымасьць пачаць вайну і пусьціць у рух усю атамную сілу, што магло прычыніць зьнішчэньне ўсяго жыцьця на зямлі! І Джонсон добра разумеў і адчуваў сваю адказнасьць ня толькі за Амэрыку, але і за ўвесь людзкі род.

Сапраўды, як існуе сьвет, ніколі і ніхто, нават найбольшыя дыктатары і заваёўнікі — (Чынгіс-Хан, Напалеон, нат і Гітлер) — ня мелі ні такой сілы, ні адказнасьці, як цяпер маюць дзьве асобы — кіраўнік Захаду Ніксон і кіраўнік Усходу Брэжнеў! Да іх стараецца прымкнуць, як трэйцяя сіла, Мао-Цэ-Дун. — Яны могуць вынішчыць жыцьцё на зямлі на доўгія вякі!

Шчасьліва яшчэ, што Ніксон — чалавек веручы і сумленны, але што сказаць пра крывадушнага Брэжнява і шалёнага Мао?-

*

З гэтага можам зразумець, якое вялікае значэньне мае дзень 1-га *студзеня:* у гэты дзень Царква паўтарае заклік да ўсяго чалавецтва захоўваць згоду-супакой на ўсім сьвеце.

Павал VI-ы прыпамінае ўсяму людзтву, што сумленьне сьвету ня можа пагадзіцца з тэрорам і катаваньнем вязьняў, з лягерамі і рознымі спосабамі мучэньня нявінных людзей. Чалавецтва жадае міру і спакою, вольнае працы, хлеба і памешканьня, раззбраеньня і гарантыі ад пагрозы вайны, асабліва атамнай вайны! Значыць, ёсьць надзея, што людзі маглі-б уладзіць агульнае жыцьцё паводле хрысьціянскае этыкі і любові бліжняга, каб мілітарная сіла ня была апошнім аргумантам у спрэчных справах.

Рымскі Папа зьвяртаецца асабліва да моладзі, каб ведала, што супакой пачынаецца ў нутры людзкога сэрца. Вартасьць міру трэба зразумець і пазнаць, жадаць згоды між сваімі ды палюбіць сапраўдны мір Хрыстовы. Прымус, гвалт і сіла ня могуць быць пэўнай гваранцыяй міру: людзі ня могуць жыць пад ціскам і ярмом няволі і дыктатуры, тэрору і прыгнёту, страху і няпэўнасьці.

Дзень Сусьветнага Супакою, які Папа ўстанавіў тры гады таму на 1-га студзеня, ужо сьвяткуецца больш чым у 100 краінах сьвету, а вернікі моляцца, прызываючы Божага Міласэрдзя для стурбаванага чалавецтва.

Кажны разумны чалавек павінен справу міру сур'ёзна разважыць перад Богам і ацаніць ягоную вартасьць для сябе асабіста, для

(Заканчэньне на 2 бач.)

*Уладзімер Глыбінны*

# На Сьвятой Зямлі

(НАРЫСЫ З ПАДАРОЖЖА Ў ПАЛЕСТЫНУ)

*(Працяг)*

## IV

## СЬВЕДКІ КРЫЖОВЫХ ЖАРСЬЦЯЎ

*«Аще веруеши, узриши славу Божію»*
Надпіс на абразе Хрыста ў цярновым вянку на месцы ўзьняцьця крыжа.

Усьлед за іншымі паломнікамі Усевалад Ціхановіч падаўся ўперад. Удзячлівым паглядам ён зацеміў зьлева ад Камня Мірапамазаньня мармуровую плітку, акратаваную каўпаком. Там некалі стаялі засмучаная Богамаці і сьв. Марыя Магдалена, іншыя жанчыны ды апостал Іван Багаслоў, калі Збавіцеля здымалі з крыжа. Над ёю заўсёды гарыць лямпада.

Пачалі падымацца справа па сходах у змроку, адно пры сьвятле ледзь тлеючых лампадаў, на скалу — месца ўкрыжаваньня Госпада. Наверсе невялікая царква з купалападобнай стольлю скрозь у абразах Хрыстовых пакутаў. Месца ўзьняцьця крыжа належыць да грэкаў, а месца прыбіваньня да крыжа да каталікоў. Абодвы маюць прастолы для Божай Літургіі. У лацінскім аўтары багатая мазаіка: над распасьцертым і прыбіваным да крыжа Божым Сынам стаіць жалобная Божая Маці. Справа ад аўтара ў сьцяне вакно ў каталіцкую царкву Засмучанай Божай Маці. Некалі тут былі дзьверы, праз якія ўвайшоў імпэратар Іраклі, босы, у вопратцы ціхмянага і з Жыватворным Дрэвам Крыжа Гасподняга пасьля таго, як апошні быў адабраны ад Пэрсаў.

За месцам узьняцьця Крыжа вялікае Ўкрыжаваньне з укленчанымі перад ім Божай Маці і сьв. Апосталам Іааннам Багасловам. Перад Укрыжаваньнем — адчынены прастол у выглядзе пліты на чатырох мармуровых калёнах. Над ім мноства дарагіх лампадаў, сярод якіх ёсьць і зробленыя сваім часам за кошт ахвяраў нашых суродзічаў. Вялікая срэбраная зорка і ёсьць самым месцам узьняцьця Жыватворчага Крыжа. Гэта месца Збавеньня ўсяго чалавецтва, дзе з Крыжа прагучалі словы Ісуса Хрыста і пра якое царкоўная песьня кажа словамі: «Да молчит всякая плоть человеча и да стоит со страхом и трепетом . . .».

Над самай адтулінай у зорцы абраз Хрыста ў цярновым вянку з надпісам славянскай вязяй. Унізе словы: «Веруем, Господи, и благодарим Тя». Гэта месца найвялікшага ўніжэньня Сына Божага і тут нават Патрыярх і архірэі служаць без мітраў. У часе начных Літургіяў каля Галгофы адбываецца агульнае гавеньне, паніхіда з памінаньнем нябожчыкаў. На месцы двух крыжоў разбойнікаў, абазначаных чорнымі коламі на мармуровым памосьце манахі сьпяваюць акафіст Хрыстовым пакутам і прыпевы разважнага разбойніка: «Иисусе, Сыне Божій, помяни нас егда пріидеши во Царствіи Твоем».

Справа ад Укрыжаваньня побач з грэцкім прастолам — вялікая расколіна ў скале, упрыгожаная срэбрам. Гэта ад землятрусу, калі Ўкрыжаваны Хрыстос прамовіў: «Совершилася» и «преклонь главу, предаде дух». Яна асабліва добра бачная з пячоры пад Галгофай, так званай «Капліцы Адама». Тут горы наламанага каменьня сьведчаць аб тым жаху, якім сама прырода выказалася ў часе сьмерці Богачалавека-Творцы.

На гэтым месцы некалі праведны патрыярх Ной пахаваў косьці прабацькі Адама, і яны ў часе Ўкрыжаваньня былі палітыя Крывёю Хрыстовай, дзеля чаго і існуе традыцыя маляваць пад Крыжом Збаўцы чэрап Адамаў.

У Адамавай Капліцы адбываліся памінальныя маленьні. Там жа побач і Прыёмная Рызьніца, дзе паломнікі запісваюць імёны сваіх памёрных родзічаў дзеля памінаньня іх на Дамавіне Гасподняй. Адтуль можна трапіць у мошчазахавальніцу сьвятых. На Галгофе няма дзённага сьвятла: яно пагасла

---

«НА ЗЯМЛІ МІР . . .»

(Заканчэньне з 1 бач.)

сваіх родных, для Бацькаўшчыны і для ўсяго сьвету. Трэ лучыцца ў малітве з Найсьвяцейшай Дзевай Марыяй і з тым «войскам нябесным», што сьпявала ў Бэтлееме: «Слава на вышынях Богу і на зямлі мір для людзей добрай волі». Пры гэтым трэба ажыўляць у сабе шчырую веру ў Бога, непахісную надзею і гарачую любоў да Яго, ды ў сваім сэрцы добрую, чыстую і моцную волю любіць бліжняга і жыць з ім у сапраўднай мілай згодзе . . .

ў часы нялюдзкіх пакутаў Богачалавека і да сяньня адно мноства спушчаных з скляпеністае столі лампадаў крыху азараюць патаемны прыцемак.

У мошчазахавальніцы маецца і Крыж з вялікім кавалкам сапраўднага Жыватворчага Дрэва Хрыстовага Крыжа.

Пакідаючы Капліцу Адама, па абодвы бакі відаць каменныя лавы, пакрытыя дрэвам. Там у часы Крыжаносцаў і пазьней стаялі саркафагі першых Ерусалімскіх каралёў — Гатфрыда Бульёнскага і ягонага брата Балдуіна. Уся падлога была маставаная магільнымі плітамі памёрлых у Палестыне рыцараў, але ад іх мала што засталося.

Спусьціўшыся па 17 ступенях з Лобнага мейсца Галгофы і апынуўшыся зноў каля Камня Мірапамазаньня, паломнікі бачаць справа ў прыцемку калідор, які вядзе вакол Царквы Ўваскрошаньня. Уздоўж калідору разьмешчаныя малыя аўтары ў гонар Пакутаў Хрыстовых. Там калісьці захоўвалася і начыньне для катаваньня Сына Божага. Першым ёсьць Аўтар Ганьбаваньня або Капліца Цярновага Вянка. Яго Прастол знаходзіцца на абломку калёны, на якой некалі сядзеў Выратавальнік на двары Прэторыі, а воіны зьдзекваліся над ім, як над царом. Тут у сярэднія вякі яшчэ захоўваўся калючы вянок, якім злыя стражнікі ўвянчалі Госпада.

У колькіх кроках далей таксама справа лесьвіца вядзе ў падземны Храм царыцы Алены з купалам на паверхні зямлі. Ён ужо асьвятляецца праз вокны ў купале. Адтуль па сходах у правым куце можна спусьціцца ў пячору — старую цыстэрну, куды былі ськівутыя пасьля ўкрыжаваньня крыжы трох укрыжаваных. Пазьней з вялікімі цяжкасьцямі тыя крыжы былі адкапаныя пад асабістым кіраўніцтвам сьв. Царыцы Алены. Яна сама прысутнічала на раскопках тае цыстэрны і натхняла работнікаў-далакопаў капаць глыбей, кідаючы ім копы грошай. Цяпер тут стаіць бронзавая статуя сьв. Царыцы Алены, а побач у глыбіне — каменная пліта з мазаічным праваслаўным крыжом на месцы знаходкі Жыватворчага Дрэва. Яно доўга тут і захоўвалася. У знак Узьняцьця Крыжа тут адбываюцца ўрачыстыя службы з крыжовым ходам і чынам Узьнясеньня.

З царквы сьв. Алены па галярэі ідзём да Капліцы Распадзелу Рызаў Хрыстовых і бачым прыгожую ікону — абраз гэтага здарэньня. Тут некалі захоўвалася і частка рызы Хрыстовай. Далей будзе Капліца ў гонар сьв. Лонгіна, сотніка, які каля Хрыстовага Крыжа гатоў быў паверыць у Сына Божага, а



*Гетсімані і Аліўная гара*

каля Хрыстовага Гробу канчальна паверыў у час Уваскрошаньня. Паміж чацьвёртым і шостым стагодзьдзямі тут яшчэ можна было бачыць піку, што пракалола цела Хрыстовае. Напамінам пра тыя падзеі цяпер там на сьцяне вісіць ікона, на якой адлюстраваны сот-



*Сьвятыня Гетсімані ў падножжы Аліўнай гары*

нік, які каля Крыжа называе ўкрыжаванага Сынам Божым, а на іншай іконе ён ужо паказаны абезгалоўленым за тую веру і памагаючым жанчыне знайсьці ягоную галаву і вылячыцца ад сьлепаты.

На поўдзень ад аўтара сьв. Лонгіна — дзьве каплічкі ў мораку. У бліжэйшай — Капліцы Ланцугоў — знаходзіцца пліта з дзьвумя шчылінамі для ног, куды саджалі асуджаных на сьмерць злачынцаў. З іконы над плітой відаць, што Ісус Хрыстос быў таксама закуты ў кандалы. У Капліцы Божай Маці на дасканалай іконе мы бачым яе ў тужлівай маліцьве ў акружэньні плачучых міраносіцаў у страшны дзень Укрыжаваньня і Сьмерці Госпада.

Простай скляпеністай галярэяй мы трапляем у Францісканскую Царкву, пабудаваную ў гонар зьяўленьня Ўваскрослага Збаўцы перад Сваёй Маці. Тут каля ўваходу направа на невялікім аўтару захоўваецца частка парфірнае калёны, да якое Збавіцель быў прывязаны на двары Пілата ў часе бічаваньня. Да тае калёны можна дакрануцца канцом даўгой трысьціны, што ляжыць тут жа, дарма, што яе адлучае ад наведвальнікаў агарожа. Пакланіцца ёй і пацалаваць магчыма ў Вялікую Сераду, калі ў часе каталіцкага Вялікага Тыдня яна адчыняецца для адведальнікаў.

У гэтай-жа царкве шануецца месца ўваскрошаньня памерлай жанчыны шляхам дакрананьня да Жыватворчага Крыжа Господняга, калі ён быў знойдзены. Нельга абыйсьці па дарозе на поўдзень каля вялікага слупа каталіцкі аўтар зьявішча Хрыста сьв. Марыі Магдалене. Таксама ёсьць там яшчэ і Капліца Сірыйцаў, якая мяжуе з падземнымі грабніцамі і пахавальнымі пячорамі Самавітага Язэпа і Нікадзіма, першых Сьвятагробцаў Хрыстовых, а таксама Коптская Капліца з прыроднай скалою пячоры сьв. Дамавіны. Амаль над уваходнымі «вратамі» ў Храм Гасподзен ёсьць Царква Багародзіцы, якая належыць армянам. Аднак бальшыня гэтых прыдзелаў належыць грэцкай праваслаўнай царкве.

Гэтак вакол Саборнай Царквы Ўваскрошаньня ўздоўж галярэі ўсе названыя тут капліцы становяць сабою як бы наглядны «крыжовы шлях» для яго ўшанаваньня. Кожная з іх дапаўняе агульны абраз Хрыстовых Жарсьцяў і робіць уяўленьне аб іх больш канкрэтным і адчувальным.

Усевалад Ціхановіч, дарма, што змарыўся і ўжо ног пад сабою ня чуў, быў аднак, дужа ўзрадаваны, што тое, што ён дагэтуль знаў адно з словаў Сьвятое Кнігі, цяпер набыло гэткіх жыццёвых і рэальна-адчувальных фарбаў і рысаў, што яму ўжо часінамі пачало здавацца, што ён пабываў сучасьнікам тых



*Царква сьвятой Магдалены*

вызначных на вякі падзеяў. Бліжэйшае азнаямленьне з падзеямі Хрыстовага часу гэтак уразілі яго, што, здавалася, зьляцеў ужо і напластаваны за стагодзьдзі пыл і пад ім яны зноў зазіхацелі, набылі новае вагі і вызначальнасьці на ўсю рэшту ягонага жыцьця.

Пановаму запраменіўся ягоны твар. На ім узыгралі сьляды той таемнай узвышанасьці і адухоўленасьці, якой значыліся твары ўсіх паломнікаў на гэтым сьвяцейшым з усіх сьвятых месцаў. І ён адно паскорваў свае крокі робячы іх шырэйшымі, каб ня быць апошнім у натоўпе паломнікаў, якія сьпяшаліся пасьпець за ўладыкаю, каб пачуць ягоныя тлумачэньні і не прапусьціць ніводнага сказу. Ён прагна лавіў кажнае слова, стараючыся распазнаць за кажнай тлумачанай рэчай глыбейшы сэнс павучальнае гісторыі сьвятога жыцьця і вучэньня, якому гісторыя чалавецтва за вякі гэтак нічога роўнага ўжо і не стварыла. І Ўсевалад бязьмежна радаваўся і пачуваў сябе як ні трэба лепш шчасьлівым і поўным новых надзеяў.

---

*Я. Савіцкі*

# 3-яя вайна — і — канец сьвету

*(Працяг)*

Стаяла позьняя восень, пачынаўся зазімак. Пасьля прыгожага лета і 2-х месяцаў мілае восені, — (такога году ніхто ў Лёндане ня помніць!), — наступіла пара халодная, што прадвяшчала марозную зіму. Сяньня дзень быў пануры: неба зацягнулася хмарамі — было азмрочана, так што а. Раман ня меў увечар сваей звычайнай яснасьці — разьмяк, як яблык, што апаў у садзе, а птушкі падзюбалі яго балюча. Праглядзеўшы ангельскую газэту, а Раман адсунуў яе з пагардай, бо была напоўнена самым пустым матар'ялам, як патрухай ад старой расьцёртай саломы. А тымчасам тэлебачаньне шуршэла малаважнымі навінкамі, якіх няварта было ні бачыць ні слухаць. Якраз гэтак, бывала, шамацелі мышы, перагрызаючы няпрыдатную мякіну ў застаранку гумна . . .

З такою прыгнятаючай думкаю а. Раман прыйшоў да а. Марціна Перабродзкага, прагнучы ўцягнуць яго ня толькі ў размову, але ў сур'ёзны дыялёг і спрэчку, каб знайсьці рашучыя спосабы ратунку для загрожанага сьвету.

РАМАН: — Добры дзень! Вітаю Вас, а. Марцін, як апосталы віталі новых хрысьціянаў: «Супакой гэтаму дому!»

а. МАРЦІН: — І табе такжа!

а. РАМАН: — Ах, Божа! мне няма супакою: я так стурбаваны навіною, якую толькі што прачытаў у паважным часапісе.

а. МАРЦІН: — А што-ж там сталася?

а. РДМАН: — Атамная зброя шыкуецца перанесьціся на сатэліты і спадарожнікі і хутка згрупуецца на няшчасным месяцы, які дасюль на працягу мільярдаў гадоў сумленна асьвечваў нашую зямлю, (цяпер збунтаваную зямлю!).

Калі ў 1912 г. параплаў «Тытанік» здэрыўся на Атлянтыку з плывучай лядовай гарою, публіка весялілася — музыкай, танцамі, выпіўкай, картамі і інш., пакуль капітан не аб'явіў, што пагражае катастрофа. Тады ўсе забавы перарваліся і толькі музыка далей іграла паважныя мэлёдыі, каб супакоіць стрывожаных людзей.

Але на цяперашнім сьвеце пануе пустое жыцьцё, шалёны бізнэс, заўзятая барацьба партыяў, бунты моладзі і розныя мясцовыя войны . . . — так чалавецтва падобнымі наркотыкамі стараецца заглушыць пагрозы зьнішчэньня жыцьця на плянэце.

Сапраўды, мы насьлядоўваем малое дзіця, што падчас вялізнага руху на вуліцы, апынулася на сярэдзіне скрыжаваньня і, каб ня бачыць і ня чуць гармідару самаходаў, закрывае вочы ці сьмяецца дый пляскае ў далонькі.

а. МАРЦІН: — Гэта ўсё праўда. І Вы ўжо пра гэта дастаткова пісалі ў «Божым Шляхам», дык давай — будзем прыступаць да справы. Найперш скажыце, што Вы самі прапануеце на пачатак нашае акцыі?

а. РАМАН: — А што кажуць беларусы ў цяжкіх мамэнтах жыцьця ? . . . «Як трывога, дык — да Бога!» і «Бяз Бога — ні да парога!» І яшчэ кажуць: «Чалавек страляе, а Бог носіць кулі». А пры паважнай працы міма ідучыя кажуць: «Памажы, Божа!»

Значыць, якраз я й думаю, што трэба пачынаць ад Бога!

а. МАРЦІН: — Добра, я згаджаюся, дык пачынай — чакаю!

а. РАМАН: — Пачну гаварыць і пісаць стылем і манерай сьв. Паўла апостала: — «Ведаю чалавека ў Хрысьце . . . (ці ў целе, ня ведаю, ці па-за целам, ня ведаю: Бог ведае). У ІІ-ім лісьце да Карынт. разьдзел 1-ы, верш 2—3.

І далей: « . . . сабою не пахвалюся, хіба толькі бяссільлем маім. Калі-ж захачу хваліцца, ня буду дурным, бо скажу праўду: але я стрымліваюся, каб хто не падумаў пра мяне больш, чым ува мне бачыць, або чуе аба мне . . . (раз. 1, в. 5—6).

а. МАРЦІН: — І гэта добра! гаварыце пра таго «чалавека». Я разумею вашую манеру, што хочаце прыкрыць тое, чым нельга хваліцца. Тады-ж, далей-далей! я слухаю.

а. РАМАН: — Гэты «чалавек» гадоў 7—8 таму, будучы праняты думкамі пра атамную пагрозу, прыйшоў да пераканаpreviously ньня, што толькі Сам БОГ можа перашкодзіць і адсунуць небасьпеку, бо людзі маглі, разьвіваючы навуку, асабліва тэхніку і творачы палітыку, дайсьці да апошняга пункту, скуль ужо няма павароту, — аж і сапраўды ўжо Захад і Ўсход ня толькі гатовы выканаць пагрозу, але чалавецтва стаіць напярэдадні — «3-яе вайны» ! . . «атамнае вайны!»

— Бог, праўда, дае магчымасьць людзям адумацца. Аднак навука і палітыка ўсьцяж паглыбляюць небасьпеку і сьвет уціскаецца ў самы вузкі тупік — аж нельга будзе павярнуцца!

— Што нам рабіць? нам, людзям, якія хацелі-б ратаваць сьвет ад згубы ? . . .

— Дык вось прыйшоў нам у галаву і ў сэрца такі плян:

— 1) Ахвяраваць с я б е і ўсё сваё дабро — час, здароўе, працу і малітвы, паводзіны і непаводзіны, прыязьнь і крыўды — словам, усё жыцьцё і сьмерць — *ахвяраваць* за ўвесь грэшны *сьвет*, каб Бог з свайго Міласэрдзя ратаваў нас ад «заразы, голаду, агня і вайны», інакш кажучы, ад «3-яе вайны і канца сьвету».

— Пад «грэшным сьветам» разумею сябе самога, сваіх найбліжэйшых, Бацькаўшчыну і наагул усё чалавецтва.

— 2) Што значыць «ахвяраваць»? Значыць, ніякіх заслугаў ужо ня буду перад Богам прысвойваць сабе і хачу злучыцца ў гэтым з *ахвярай Госпада Ісуса Хрыста*, якую Ён прынёс сваім жыцьцём, працай, навукай і крыжовай сьмерцяй.

— 3) Буду карыстаць з усялякіх спосабаў *прапаганды* — словам і пісьмом, каб уцягнуць да супрацы іншых людзей — веручых у Бога.

УВАГА: хоць *Бог мог-бы* і бяз нашае помачы — *Сам* абараніць сьвет (і на гэта спадзяюцца людзі добрае волі), але мы ведаем з Эвангельля, што Бог дапускае, а нават дамагаецца помачы ад людзей. Ведаем гэта з Старога Запавету — з прыкладу Абрагама, які заступаўся перад Богад за Садому і Гамору, з прыкладу Майсея, які заступаўся і ахвяраваў сябе Богу за жыдоўскі народ, а Бог прыняў ягоныя малітвы і дараваў народу. Асабліва ведаем з прыкладу апостала Паўла, які (чытаем у ягоных лістох) няраз ахвяроўваў сябе за жыдоўскі народ і наагул лучыўся з Хрыстом за ўвесь сьвет. Казаў: «Мы — супрацоўнікі Бога». (1 да Кар. 3, 9).

— Дык вось прашу вашае ласкі, а. Марцін, выкажыце свой пагляд на такую ахвяру за грэшны сьвет: можа што ў гэтым пляне ня так? І ці наагул нашая ахвяра мае які сэнс? Ці яна патрэбна? А можа каму шкодная? Ці можа — гэта толькі пустая надзея ? . . .

— Паслухаўшы вашыя сьветлыя заўвагі, я пасьля высьню, які мой далейшы плян дзеяньня.

*

а. МАРЦІН: — Вы пытаеце, ці вашая *ахвяра* мае сэнс? А я Вас пытаюся, ці Вы самі маеце надзею выратаваць сьвет ад атамнае вайны?

а. РАМАН: Тут трэба дапоўніць, што нясе ў сабе 3-яя вайна? Адказваю: прынясе ня толькі атамную пагрозу, але пагрозу таксама «заразы», значыць, бактэрялягічнае вайны, якая яшчэ будзе горшая ад атамнай, і пагрозу голаду, які і без вайны мучыць ужо больш палавіны сьвету. Затое беларусы і сьпявалі ў Суплікацыі: — «Ад паветра (заразы), голаду, агню і вайны — захавай нас, Божа!»

— І другое: Ня *мы самі* маем надзею выратаваць сьвет, але ў лучнасьці з Ісусам Хрыстом, які прынёс поўную ахвяру за людзей сваею сьмерцяй і называецца «Збаўцам сьвету».

а. МАРЦІН: — Калі так, дык трэба згадзіцца з Вамі. Дый яшчэ мушу падкрэсьліць, што Хрыстовая ахвяра трывае ўсьцяж — і тая, што была дакананая на Крыжы — яна ў сваіх выніках і заслугах трывае да канца сьвету. І яшчэ — відавочна для нас — Хрыстовая ахвяра ў Тайне Літургіі і Прычасьця *паўтараецца* штодня па ўсім сьвеце. Такім спосабам Хрыстос ёсьць Збаўцам заўсёды, а людзі могуць і павінны лучыцца з Хрыстом — праз Сьв. Літургію і Прычасьце — з малітвамі, пастом і добрымі ўчынкамі дый пакутамі. — Значыць, толькі вось гэтак магчыма ратаваць сьвет ад усіх няшчасьцяў, войнаў, заразаў, голаду і ад іншых бедаў . . .

а. РАМАН: — Дзякую! Вашыя заўвагі вельмі для нас вартасныя. Мы самі баімся ўпасьці ў ганарлівасьць, а нат' і ў самадурства, таму мы ў праграме маем на ўвеце лучыцца з Хрыстом-Збаўцам у пасьце і малітве, у працы і цярпеньнях, а найбольш у сьмерці, — словам, — у поўнай ахвяры з сябе!

а. МАРЦІН: — Вашая «поўная ахвяра» мяне крыху дзівіць і непакоіць, бо толькі Сам Хрыстос ёсьць «поўная ахвяра» ў Сьвятой

Сьмерці і ў Сьвятой Эўхарыстыі. Каб не закралася ў Вас — у вашай гарачнасьці і самапэўнасьць ? . . .

а. РАМАН: — Спадзяюся, што не! Мы будзем асьцерагаць нашых супрацоўнікаў, каб занадта неразьлічвалі на сябе, але цалкам давяраліся Самому Хрысту і на Ім асноўвалі ўсю сваю пабожнасьць, пакуту і ахвяру з сябе самых.

— Мы толькі хочам выканаць праграму паводле Хрыста, Які гаварыў апосталам: «Ідзі, прадай, што маеш і раздай бедным дый ідзі за Мною!»

а. МАРЦІН: — Але-ж гэта датычыць толькі самых апосталаў!

а. РАМАН: — Праўда! Аднак трэ' чытаць і іншыя словы: «Хто не адрачэцца бацькі й маткі . . . й самога сябе, той Мяне ня варты» і таксама: «Хто хоча ісьці за Мною, няхай адрачэцца самога сябе і возьме свой крыж на кажны дзень і насьледуе Мяне».

— Мы ня будзем усяго прадаваць і раздаваць, але хочам толькі «адрачыся сябе», каб зусім служыць Богу дзеля ратунку сьвету ад катастрофы.

— Да гэтага пабуджае нас, як мы казалі, прыклад сьв. Паўла апостала і прыклад многіх сьвятых, якія рабілі ахвяры з сябе. Гэтак законьнікі — манахі з Закону Сьвятое Тройцы «ад выкупу палонных з турэцкае няволі» — шлюбавалі Богу, што, калі будзе патрэба выкупіць чалавека з няволі, а ня будзе іншага спосабу, дык гэты манах запрадасьць самога сябе, каб нявольнік быў пушчаны на свабоду.

Гэтак манах-францішканец Максымільян Кольбэ замяніў у лягеры другога чалавека і сам за яго пайшоў на галодную сьмерць у нямецкім рэжыме.

А Папа Ян XXIII-ці ахвяраваўся на сьмерць за ўвесь грэшны сьвет і Бог прыняў ягоную ахвяру . . .

а. МАРЦІН: — Так, але ўсе людзі не закліканы да такіх незвычайных ахвяраў, бо гэта ўжо гераізм ! . . .

а. РАМАН: А крывасмок Гітлер заклікаў і гнаў на пэўную пагібель мільёны людзей, каб нішчылі нявінных і каб самі загінулі. Дый колькі загубіў Сталін і іншыя падобныя ! . . .

— Значыць, людзі «адракаліся сябе» дзеля мэтаў самых нягодных, а мы маем у пляне мэту самую высокую, якая ня прычыніць нікому крыўды, толькі прынясе — з Хрыстовай ахвярай — найбольшую хвалу Богу дый ратунак усяму чалавецтву . . .

— Дык, а. Марцін, багаслявіце нас на такі, як Вы кажаце, «гераічны подзьвіг»-

а. МАРЦІН: — Добра, багаслаўляю, хоць прызнаюся, што маё сэрца хвалюецца, а рука дрыжыць. Дый асьцерагаю: не гарачыцеся і не сьпяшыце. Бог мае час. Калі Бог стварыў сьвет у шэсьць дзён, а біблісты тлумачаць, што Божыя дні магчыма разумець як вялізарныя пэрыяды ў мільёны-мільярды гадоў, дык не пазволіць Бог, каб гэты — дарагі Яму сьвет — быў зьнішчаны, — праз неразважную палітыку і тэхніку — ў адзін міг ці ў працягу 3-яе вайны ! . . . Бо і самі Вы казалі на пачатку нашае дыскусіі, што «чалавек страляе, а Бог кулі носіць».

— І Хрыстос гаварыў, што канца сьвету ня ведае ніхто, а толькі Сам Бог Айцец.

а. РАМАН: — Так, Хрыстос гэта гаварыў, але казаў: «Гатовы будзьце і маліцеся . . .» Дык і мы асьцерагаем і молімся . . .

*

Чыкаго, 18. XII. 1969

Вашыя артыкулы аб канцы сьвету мне па душы, бо Вы ясна кажаце, што творыцца ў сучасным сьвеце «людзей-зьвяроў» у пагоні за здабычай па абшарах шматпакутнай зямлі, якую Хрыстос збавіў для вечнага жыцьця і шчасьця. — Дык вось-вось і канец можа быць паложаны на ўсё жывое — на сушы, ў вадзе, ў паветры — шатанскімі бомбамі, ядзернымі прыладамі ды іншымі сродкамі для зьнішчэньня і людзей і сьвету ! . . .

Значыць, цяпер у нашым сьвеце, дзе прадбачыцца руіна і пагібель, людзі яшчэ не азьвярэлыя, хоць і з малой верай і з слабенькай надзеяй і з цеплаватай любоўю, павінны пайсьці на ратунак усяго чалавецтва — нашае супольнае сям'і!

Аднак што мы, самі слабыя, можам зрабіць і як супакоіць неразважную запальчывасьць? Вядома, людзі — бясьсільныя, затое Бог — Усёмагутны! Таму са шчырым сэрцам, з пакутай за свае грахі і за грахі ўсяго чалавецтва, з гарачай малітвай і з адважным пастом, трэба зьвярнуцца да Бога, каб выпрасіць прабачэньне і зьмілаваньне для ўсяго сьвету, асуджанага нягоднымі палітыкамі на загубу.

Бог Айцец, Стварыцель неба і зямлі, адзін можа даць ратунак у такім крытычным часе: даверліва спадзяёмся, што — праз заслугі Свайго Адзінароднага Сына — нашага Брата-Чалавека — хоча нам памагаць у нашым бязвыхадным няшчасьці і пагрозе. А прытым будзем маліцца да нашае заступніцы Найсьвяцейшае Дзевы Марыі, якая, як добрая Маці, захоча нам памагчы і будзе з намі і за нас маліцца.

Так калісьці Эстэра, як пачула пра пагрозу свайму жыдоўскаму народу — старых і малых, мужчын і жанчын, усіх бяз вынятку, — хоць была яна жонкай цара Агасвэра, але не магла нічога перамяніць, аднак адважна пайшла да цара і прасіла ратунку і атрымала ўсё: усе суродзічы тады і аж да сяньня жыдоўскі народ

удзячны і славіць Эстэру за яе добрасьць і за ратунак. — І вось пры гэтым трэба зацеміць, што Эстэра з усей ўвагай і пабожнасьцяй прыгатавалася да сваей высокай місіі: сама пасьціла і малілася, а таксама заклікала ўвесь народ навярнуцца ўсім сэрцам да Бога.

Дык тымбольш нам у такім паважным часе і ў такіх трудных абставінах трэба ў «Новым Запавеце» ратавацца «праз Хрыста і з Хрыстом»: лучыцца з Ім у ахвяры з нашага жыцьця, у пакуце, малітве, у цярпеньнях і спакусах.

*Ваш Я. Т.*

---

*а. Аляксандар Надсон.*

# Малітаўнік Мамоніча 1601 г.

Адным з цікавых помнікаў беларускай пабажнай літаратуры канца XVI і пач. XVII стагодзьдзяў з'яўляецца кніжачка *Штодзённыя малітвы*, якая выйшла з друкарні Мамонічаў у Вільні ў 1601 г. Поўны назоў яе гучыць *Молитвы повседневные з многих святых отец, Церкве Хрыстовы учителей, с писма греческаго вкратце избраны. И иніи молитви на всю седмицу Святого Кирила инока. Выдрукованы суть в Вильни в друкарни дому Мамоничов року 1601.* Сваім вонкавым выглядам малітаўнік робіць вельмі прыемнае ўражаньне. Малы фармат у 12-тую частку аркуша робіць яго выгодным для частага карыстаньня. Шрыфт — прыгожы паўкурсыў, які не спатыкаецца ў ніякім іншым папярэднім выданьні. Тэкст абведзены рамкамі. Мова малітаўніка царкоўна-славянская, у якой адчуваецца нязначны беларускі ўплыў. Ёсьць таксама некалькі дапамаговых тэкстаў у беларускай мове.

Сёньня *Штодзённыя малітвы* з'яўляюцца вялікай бібліяграфічнай рэдкасьцю. Першы апісаў гэты малітаўнік Каратаеў у 1883 годзе.[1] Ён меў аднак нагоду бачыць толькі адзін пашкоджаны паасобнік без пачатковай старонкі і без канца, і таму ён вызначыў памылкова год выданьня паводле пасхаліі як 1602. Адзін паасобнік *Штодзённых малітваў* знаходзіцца ў Бодлейскай бібліятэцы ў Оксфардзе, кароткую зацемку аб якім надрукаваў упершыню Дж. Барнікот у 1934 г.[2] Оксфардзкі экзэмпляр з'яўляецца амаль камплетным і ў ім не хапае толькі прысьвячаньня, якое было складовай часткай амаль усіх беларускіх выданьняў таго часу. Не захавалася поўнасьцю прысьвячаньне і ў паасобніку, апісаным Каратаевым, а толькі ягоная канцовая частка наступнага зьместу: «Которые (малітвы — *А. Н.)* я у водну громаду якобы зобравши и немалося потрудивши тепер з друку выдаю, а вашой святительской милости, яко пану и пастыру своему з униженьем вшеляким покорне оферую. Пріими прето зацный Пане и великій Архіепіскопе сей малый упоминок, знак зычливости и подданства моего, започаток и задаток послуг моих, которыми абымся завжды щитить мог в почте намнейших служебниках В(ашей) М(илости) собе упрійме зычу. В(ашей) М(илости) моего милостивого Пана И пастыра поволный и найменший служебник, Леон Козмич Мамонич».[3]

Такім чынам складальнікам малітаўніка быў Лявон Мамоніч. Ягоны бацька Кузьма з сваім братам Лукашом былі закладчыкамі ведамай віленскай друкарні, якая насіла іхняе прозьвішча. Лявон, відаць, атрымаў добрую асьвету і праяўляў пэўныя пісьменьніцкія амбіцыі. Ягонае імя спатыкаецца ўпяршыню ў *Псалтыры* 1593 г., дзе ён быў аўтарам прысьвячаньня і эпіграмы на гэрб свайго дзядзькі Лукаша Мамоніча, старасты Дзісьненскага і Скарбнага Вялікага Княства Літоўскага. У пачатку XVII ст. Лявон быў

---

[1] И. Каратаев, Описание словено-русских книг напечатаных кирилловскими буквами. *Сборник Отделения Русского языка и словесности Имп. А. Н.*, т. 34, № 2, СПб. 1883, стр. 296—98. (№ 168).

[2] Дж. Барникот, Неизвестные русские старопечатные книги найденные в Англии. *Временник Общества Друзей русской книги*, № 4, Париж 1938, стр. 71—72. (№ 8).

Глядзі таксама кароткую зацемку пра Оксфардскі паасобнік малітаўніка ў: J. D. A. Barnicot and J. S. G. Simmons, Some unrecorded Early-printed Slavonic Books in English Libraries, *Oxford Slavonic Papers*, Vol. II, Oxford 1951, p. 107 (№ 8).

Адзін даволі пашкоджаны паасобнік малітаўніка знаходзіцца ў бібліятэцы Упсальскага унівэрсітэту ў Швэцыі. Ён коратка апісаны пад № 10 у каталёгу Чельбэрга, а пад № 14 у гэтым самым каталёгу ёсьць апісаньне адзінага ведамага паасобніка другога выданьня *Штодзённых малітваў* з 1609 г. (L. Kjellberg, Catalogue des imprimés slavons des XVIe, XVIIe et XVIIIe siècles conservés à la Bibliotheque de l'Université Royale d'Uppsala. Uppsala 1952).

[3] Гл. Каратаеў, op. cit., стр. 297—98. Як відаць з прыведзенага ўрыўку, прысьвячаньне было напісана ў беларускай мове. Каратаеў, які карыстаўся пашкоджаным паасобнікам малітаўніка, лічыў гэты ўрывак заканчэньнем прадмовы да чытача. Ягоную памылку сёньня ўдалося выправіць пры дапамозе Оксфардзкага паасобніка, у якім захаваўся поўны тэкст прадмовы да чытача (Предсловіе к православному христіяніну) у царкоўна-славянскай мове.

ужо на чале друкарні. Магчыма *Штодзённыя малітвы* былі першым вынікам ягонай самастойнай выдавецкай дзейнасьці.

Цяжка сказаць, наколькі Лявон Мамоніч быў арыгінальным у складаньні свайго малітаўніка. Пяць гадоў раней, у 1596 г., Віленскае праваслаўнае брацтва выдала малітаўнік з такім самым назовам. Вось зьмест двух твораў:[4]

| БРАЦКІ МАЛІТАЎНІК 1596 Г. | МАЛІТАЎНІК МАМОНІЧА 1601 Г. |
| --- | --- |
| Молитвы полунощные<br>Утреніи<br>При часех<br>При святей литургіи<br>Пред обедом<br>По обеде<br>По скончаніи вечерни<br>На сон грядуще<br>Последованіе еже к божественному причащенію<br>Исповеданіе православной веры святого Амвросія епископа Медіоланского<br>Афанасія, архіепіскопа Александрійского символон (сиречь) изложеніе о православной вере.<br>Канон покаянный на вся дни и по вся часы; твореніе святаго Андрея Критскаго.<br>Молитвы на всю седмицу. Творение святаго отца Кирилла инока.<br>Молитвы на всяк день по часех.<br>Молитвы на сон грядущи<br>Соборник дванадцатем месяцем<br>Пасхалія<br>Наука хотящим ведать лунное теченіе. | Молитвы полунощные спочатку<br>Утреніи, по них<br>При святей литургіи<br>Пред вкушеніем брашна<br>Тамож и благодареніе.[5]<br>На сон грядуще<br>Пред вкушеніем животворящих Таин.<br>По причастіи<br>Исповеданіе православной веры святого Амвросія епископа Медіоланского<br>Канон покаянный.<br>Тутже и молитва<br>Правило от оскверненія<br>Таж молитвы С. Кирилла инока на всю седмицу по ряду.<br>Святце<br>Пасхалія |

Апрача гэтага абодва малітаўнікі маюць прадмову да чытача *(Предсловіе к православному христіянину)*. Калі можна судзіць паводле зьмешчанага ў Каратаева пачатку прадмовы брацкага малітаўніка, дык зьмест абедзьвюх прадмоў ёсьць або аднолькавы, або вельмі блізкі. Малітаўнік 1596 г. быў прысьвячаны князю Багдану Саламярэцкаму.

З прыведзенага параўнаньня відаць, што зьмест малітаўнікаў вельмі падобны. Можна меркаваць, што Мамоніч пры ўкладаньні свайго малітаўніка карыстаўся брацкім выданьнем. Пры адсутнасьці аднак гэтага апошняга ў далейшым гутарка будзе ісьці перадусім пра малітаўнік Мамоніча.

*Штодзённыя малітвы* Мамоніча з'яўляюцца малітаўнікам для сьвецкіх людзей, і ў гэтым іх найбольшая цікавасьць. Малітаўнік для сьвецкіх ня быў нечым зусім новым на Беларусі ў XVI ст. Ужо каля 1525 г. Францішак Скарына, прадаўжаючы пачатую ім у Празе працу «людем посполитым к доброму наученію», выдаў у Вільні сваю *Малую подорожную книжицу*. Паводле свайго зьместу, книжка гэтая ня была нічым іншым як т. зв. *Псалтырам з дадаткамі* (Псалтирь с восследованіем). Твор гэты быў вельмі распаўсюджаны на праваслаўным усходзе, асабліва сярод славян, яшчэ ў рукапіснай форме, доўга перад пачаткам друку. Так, напрыклад, першы ведамы *Псалтыр з дадаткамі* на тэрыторыі Беларусі паходзіць з 1296 г.[6]

[4] Зместа малітаўніка 1596 г. падаецца паводле апісаньня Каратаева (op. cit., № 140, стр. 264—265). Малітаўнік Мамоніча мае на пачатку *Сочиненіе молитв яже по чину суть положены*, якое тут падаецца паводле Оксфардскага паасобніка.

Для выгоды зьмест абедзьвюх кніг падаецца ў паралельных слупках.

[5] Гэтаму тытулу ў *сочинении* адказваюць у тэксьце наступныя малітвы: пред обедом, по обеде, по вечерни, пред вечерею, по вечери.

[6] Дакладнае апісаньне гэтага рукапісу глядзі ў: А. Горский і К. Невоструев, *Описание славянских рукописей Московской синодальной библиотеки*, Отдел первый, Москва 1855, № 13, стр. 181—186.





МОЛИТВЫ

полунощные,

МОЛИТВА А.

*Малітаўнік Мамоніча 1601 г. Пачатак малітваў паўночных*

Зьмест кнігі быў даволі разнастайны. Апрача псальмаў там звычайна было правіла, як чытаць псалтыр самому; пасьля ішлі тэксты царкоўных службаў — вячэрня, павячэрра, вутраня, часы, трапары і кандакі на нядзелі, сьвяты і буднія дні, а таксама царкоўны каляндар і пасхалія. Складальнік паводле свайго жаданьня мог дадаць яшчэ адно ці два казаньні якога-колечы айца Царквы, ці які іншы твор рэлігійнага характару. Такім чынам *Псалтыр з дадаткамі* быў вельмі карысная падручнай кнігай для манахаў, якія карысталіся ім для сваіх прыватных рэлігійных практык, асабліва калі хто з іх ня мог браць удзелу ў царкоўных службах. Бязумоўна, нічога не перашкаджала карыстацца гэтай кнігай і сьвецкім людзям, аднак яе першае прызначэньне было для «келейного пенія».

*Малая падарожная кніжка* Скарыны была такім *Псалтыром з дадаткамі,* толькі зьмест яе быў багацейшы за зьмест іншых падобных зборнікаў.[7] Вялікай заслугай Скарыны было тое, што ён сьведама правёў рэдакцыю тэкстаў царкоўных службаў, маючы на ўвазе патрэбы не манахаў, а сьвецкіх людзей.[8] Пакольки ведама, ніхто да Скарыны нічога падобнага не зрабіў. Такім чы-

---

[7] Дакладнае апісаньне *Малой падарожнай кніжкі* глядзі: Каратаеў, op. cit., № 19, стр. 59—67; таксама П. В. Владимиров, *Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык,* СПб. 1888, стр. 189—200. Сёньня *малая падарожная кніжка* з'яўляецца вялікай рэдкасьцю. Першая частка яе, Псалтыр, знаходзіцца ў бібліятэцы Брытанскага Музэю ў Лёндане.

[8] Уладзіміраў дае некалькі прыкладаў такой рэдакцыі тэкстаў з мэтай прыстасаваньня іх да патрэб сьвецкіх людзей. Так напр., у малітве пасьля вячэрні, зьмест традыцыйнага «Небесный царю, верные *цари* наши укрепи... языки укроти, мир уми-

молитвы

# МОЛИТВА

Къ прстѣй бцы.

Прстаѧ влдчце моѧ бце, ѿжени ѿ мене смиреннаго и окаѧннаго раба твоего, оуныніе, забвеніе, неразоуміе, нерадѣніе. И всѧ скверная и лукаваѧ и хоулнаѧ помышленіа, ѿ окаѧннаго ми срдца, и ѿ помраченнаго оума моего. И погаси пламень страстей моих, ꙗко нищъ есмъ и окаѧненъ. И избави мѧ ѿ многих и лютыхъ воспоминаній, и предпріатій. И ѿ всѣхъ дѣйствъ злыхъ сво

оутреніи.

бѡди мѧ. ꙗко блгвена еси ѿ всѣх родовъ, и славитсѧ прчтое имѧ твое вовѣки вѣкомъ.

Аминь.

Конецъ молитвамъ оутренним.



*Канец малітваў ранішніх*

нам беларускі першадрукар з'яўляецца таксама піянерам у галіне малітаўнікаў для сьвецкіх людзей.

*Псалтыры з дадаткамі,* якія выдаваліся на Беларусі ў другой палове XVI ст., нічога новага ня ўносілі і прытрымліваліся традыцыйнай формы. Калі можна судзіць з апісаньняў, дык усе яны стаялі ніжэй за *Падарожную кніжку* Скарыны.

*Штодзённыя малітвы* Мамоніча, як і малітаўнік выданы праваслаўным брацтвам пяць гадоў раней — гэта нешта зусім новае, непадобнае на ўсе ранейшыя выданьні. Складальнік адмовіўся ад псальмаў і царкоўных служб, якія былі асновай *псалтыроў з дадаткамі,* і замяніў іх тэкстамі рэлігійных практык найбольш неабходных у штодзённым жыцьці кожнага пабожнага хрысьціяніна, як напр. малітвы ранішнія, вячэрнія, перад абедам, пасьля абеду, удзячныя, пакутныя, перад сьв. прычасьцем і т. д. Такім чынам гэта быў першы сапраўдны малітаўнік для сьвецкіх людзей, складзены з зразуменьнем іхніх штодзённых рэлігійных патрэбаў, розных ад патрэбаў манахаў.

Прадмова да малітаўніка, *Предословіе к православному християнину,* з'яўляецца маленькім разважаньнем аб малітве. Пачынаецца яна такім чынам: «Се тобе правило моленія, пенія і благодаренія изобразися, православный читателю, еже предначерташа богодухновенныи отци наши, да якоже они последоваху Господу глаголющу (Мт. 26): Бдите и молитеся, да не внидите в напасть — тако и мы ревнуем подвигом их, да на всяко время молитвами и моленіем Содетеля своего умолим, во еже быти ему милостиву грехом и прегрешеніем нашим». Далей гаворыцца аб вартасьці і сіле малитвы, прыводзячы шмат

---

ри, и *святую обитель* сию добре соблюди...» У Скарыны ёсьць: «Небесный царю, верные *господари* наше укрепи... языки *поганские* укроти, и мир вмири, а *святую церков свою* добре сохрани...» (Владимиров, op. cit., стр. 194—195). Трэба таксама дадаць, што Скарына зрабіў больш зразумелай мову малітваў, а ў асаблівасьці псальмаў замяніўшы некаторыя старaславянскія словы беларускімі. (Владимиров, op. cit., стр. 191).

прыкладаў з Старога и Новага Запавету і аб тым, якой павінна быць наша малітва. Маліцца трэба «Неленостно, с разсужденіем, ведуще яко Богу собеседници имамы быти... Со смиреніем же молимся, да не с фарисеом оплазивым трудившеся, гордыня ради плодов молитвенных лишимся; с милостынею же и постом, и прочіими добродетельми молитвы своя возсылаймо Богу, да проходят врата небесная и достизают да до престола Божія». Канчаецца прадмова наступна: «Тако прочее молимся Господу Богу, якоже богодухновенное писаніе нам наказует, совершающе добродетели во смиреніи і в страсе Божіи, держащеся любве, веру же православну несумленно хранящe, и догматы божественныя, и преданія святых богоносных отец наших неизменно соблюдающе, и тако Господа умолим. Милостив бо ест Содетель наш, ведый немощ созданія своего, Емуже честь и слава и поклоненіе подобает в безконечныя веки. Аминь».

Найбольш цікавай часткай *Штодзённых малітваў* з'яўляецца раздзел, які называецца *Молитвы при святой литургіи.* Складаецца ён з раду малітваў, якія вернік павінен гаварыць ціха ў царкве ў часе сьвятой Літургіі. Малітвы падабраныя — а некаторыя напэўна спэцыяльна напісаныя складальнікам — вельмі ўдала і з веданьнем бізантыйскай літургіі, але ва ўсёй гэтай пабожнай практыцы адчуваецца моцны заходні ўплыў. Практыка ціхіх малітваў-развaжаньняў у часе сьв. Імшы паявілася даволі рана на Захадзе, дзе людзі не маглі браць чыннага ўдзелу ў багаслужбе, яка была ў незразумелай для іх лацінскай мове.[9] На Ўсходзе розьніца між літургічнай і народнай мовамі ніколі не была так вялікай, як на Захадзе, і таму людзі ня мелі асаблівай цяжкасьці браць чынны ўдзел у сьв. Літургіі, сьпяваючы і адказваючы сьвятару ці д'якану кароткімі «Госпадзі памілуй», «Падай, Госпадзі» і т. д. Відаць, аднак, на Беларусі ў канцы XVI ст. гэты прыгожы абычай прыйшоў у заняпад. Магчыма адной з прычын было распаўсюджаньне царкоўных хораў, якія пачалі выконваць увесь сьпеў, і такім чынам людзям не аставалася нічога іншага, як быць звычайнымі слухачамі. Вось тады і магла нарадзіцца ў складальніка малітаўніка думка улажыць *Малітвы пры сьв. Літургіі* на ўзор падобных заходніх рэлігійных практык.

На Беларусі ў XVI—XVII стагодзьдзях ня было абычаю частага прычасьця. Звычайна вернікі не прычашчаліся кожны раз, калі ім даводзілася быць на сьв. Літургіі. Гэта ўзяў пад увагу складальнік *малітваў пры сьв. Літургіі*, як можна бачыць з наступнага тэксту малітвы:

«Да исполнятся уста наша пенія Твоея похвалы, яко да воспоем славу Твою, яко сподобил еси *их* (курсыў мой — *А. Н.*), Боже, причаститися святых, бессмертных, пречистых и животворящих таин; и нас, Боже, соблюди во Твоей святыни по вся дни поучатися правде Твоей. Аллилуя».

Адно месца *Малітваў пры сьв. Літургіі* мае некаторую багаслоўскую цікавасьць. Вось яно:

«Молитва егда речет священник Слова Христовы: 'Пріимите и ядите, се ест тело мое':

Аминь, верую, Господи и исповедую, яко Ты еси Хрыстос, Сын Бога живаго, пришедый в мир грешники спасти, от них же первый есм аз.

Молитва егда речет священник Слова Христовы: 'Пійте от нея вси, се бо ест кров моя':

Вечери Твоей тайней днесь, Сыне Божій, причастника мя прими, не повем бо врагом Твоим тайны Твоея, ни лобзанія Ти дам яко Июда, но яко разбойник исповедаяйся вопію: помяни мя Господи во царствіи си».

З прыведзенага тэксту выглядае, што складальнік верыў, што хлеб і віно пераменяюцца ў Цела і Кроў Хрыстовы ў часе, калі сьвятар гаворыць адпаведныя словы Хрыста. Гэта супярэчыць праваслаўнаму вучэньню, паводле якога перамена адбываецца ў часе т. зв. эпіклезісу, або прызываньня Сьвятога Духа. Спрэчка аб эпіклезісе паміж Каталіцкай і Грэцкай Праваслаўнай цэрквамі ўзнікла даволі рана і дасягнула найбольшай вастрыні ў XIV—XV стагодзьдзях, калі з боку грэкаў выступілі ў абароне эпіклезісу такія значныя царкоўныя пісьменьнікі, як Мікола Кабазіляс і Сымон з Тэсалёнікі. Аднак сярод саміх праваслаўных доўгі час ня было згоды ў гэтым пытаньні. У XVII стаг. спрэчка ўзнавілася з новай сілай у Маскве, гэтым разам паміж праваслаўнымі прыхільнікамі і праціўнікамі эпіклезісу. Ў 1690 г. Маскоўскі сабор асудзіў праціўнікаў епіклезісу, большасьць якіх гуртавалася каля Кіеўскай акадэміі, дзе між іншым вучылася шмат беларусаў. На Беларусі справа эпіклезісу ніколі не парушалася і большасьць адукаваных людзей напэўна нават ня ведала, што ў гэтым пытаньні існуе розьніца вучэньняў між дзьвюма цэрквамі. Трэба таму думаць, што ў вышэй прыведзеным тэксце знайшла свой адбітак агульная вера ўсіх беларусаў, як праваслаўных так і каталікоў (уніятаў).

*(Канец будзе)*

---

[9] Гэтая практыка існавала на Захадзе ў Каталіцкай Царкве яшчэ да зусім нядаўнага часу і выйшла канчаткова з ужытку пасьля літургічнай рэформы праведзенай Другім Ватыканскім Саборам. Ведамая яна была і сярод беларусаў (гл. малітаўнік Hołas dušy, vyd. IV (ks. P. Tatarynoviča), Rym 1949, bb. 64—77).

# З царкоўнага жыцьця

Ад пачатку Адвэнту, 30. XI. 1969, ўваходзіць у Каталіцкай Царкве ў жыцьцё новы фармуляр сьв. Літургіі апрацаваны на загад II-га Ватыканскага Сабору. Гэтая новая форма набажэнства ня ёсьць адвольнай адменай, але становіцца правам: усе павінны гэтую рэформу прыняць і тасавацца, бо яна апрацавана спэцыяльнай камісіяй пасьля доўгіх і глыбокіх студыяў і навуковых пошукаў. Фактычна нічога нязвычайнага ў новай Літургіі ня ўводзіцца і паважаная традыцыя не ламаецца: нават трэба падкрэсьліць, што ў рэформе бачыцца паварот да першых вякоў хрысьціянства і Літургія зьяўляецца ўва ўсім сваім блеску, адсунуўшы ўсё, што ўвайшло менш адпаведнае з пазьнейшых часаў.

Праз сучасныя мовы сьв. Літургія стала даступнай ўсім народам. Так пачалася новая эпоха ў жыцьці Царквы.

✳

Каталіцкая Царква асуджае скандальныя выдаткі на вайну. Робяцца вельмі малыя захады за мір і згоду і вядзецца агітацыя да большага збраеньня: сьвет дзеліцца на Ўсход і Захад — два блёкі, якія што раз больш зброяцца і шыкуюцца да вайны. Прэтэкстам служыць «раўнавага», каб не папусьціцца праціўнікам. Кажуць, што патрэбна аружжа, каб «адстрашыць ворага», але пры гэтым няма ніякае меры ў збраеньні, а сьвет ня мае дастаткова сродкаў аджыўленьня і голад разрастаецца.

✳

МІЖНАРОДНЫ ЭЎХАРЫСТЫЧНЫ КАНГРЭС. — Апошні такі Кангрэс адбыўся ў г. Богота ў Калюмбіі (Паўдз. Амэрыка) год таму назад. Наступны Кангрэс назначаны на 1973 г. у г. Мэльбурн у Аўстраліі.

✳

ІТАЛІЯ — РЫМ: У Калядную Ноч Павал VI-ы служыў Сьв. Літургію ў Сыкстынскай капліцы для Дыпляматычнага Корпусу. Ў прамове адзначыў, што Сьвятая Ноч Хрыстовага Нараджэньня напамінае нам цемру, што панавала і цяпер пануе на сьвеце. Чалавек шукае сьвятла, супакою і шчасьця, а гэта можа знайсьці толькі ў Хрысьце-Збаўцы сьвету, бо Хрыстос ёсьць сапраўдным сьвятлом кожнага чалавека і ўсяго людзтва.

25 XII. рана Папа служыў Сьв. Літургію ў касьцеле сьв. Агапіта на скраю Рыму, у самым бедным квартале гораду. У прамове прыгадаў вернікам, што і Хрыстос ня меў месца для нараджэньня між багачамі Палестыны. Пасьля Літургіі наведаў некалькі сем'яў самых бедных і раздаваў падаркі іхным дзецям. Як вярнуўся ў Ватыкан, адразу пазваніў да маёра гораду Рыму, алярмуючы аб вельмі цяжкіх варунках у жыльлі беднага народу на скраю гораду Рыму.

Упоўдзень Павал VI меў яшчэ Сьв. Літургію ў базыліцы сьв. Пятра і з балькону даў багаславенства «Урбі эт Орбі» — «гораду і Сьвету» ды прамаўляў да сабранага народу (да 100 тысяч). Казаў, што няма сапраўднае дэмакрацыі і гуманізму бяз Бога, бяз Хрыста-Збаўцы. Сужыцьцё людзтва бяз Бога — гэта толькі зьдзічэньне: людзі ня маюць у сабе досыць сілы духу і ня здолеюць уладзіць адносінаў між сабою. Хрыстос ёсьць сапраўднай «дарогай, праўдай і жыцьцём».

✳

БРАЗЫЛІЯ: У г. Вольта Рэдонда ўрад арыштаваў катал. біскупа Калягіерос і 15 сьвятароў, закідаючы ім «камуністычную агітацыю» Гэта найбольшае няшчасьце народу, што работнікі не маюць правоў і належнае абароны ў законах: заработкі такія марныя, што сем'і работнікаў прыміраюць ад голаду. Калі Царква бароніць работнікаў, дык урад называе іх і карае, як бунтароў.

✳

ФРАНЦЫЯ: У лістападзе 1969 адбыўся ў Люрд Кангрэс францускіх біскупаў — (125) — і гаварылі аб жыцьці парахвіяў, у цяперашнім часе парахвія, у якой дасюль групавалася тэрытарыяльная грамада вернікаў, ужо не надаецца да правідловага пастырства: трэба шукаць людзей ў іншым асяродзьдзі, створаным працай, адпачынкам, турызмам і падарожай. Дык узьнікла думка будаваць там капліцы ў сучасным стылі — на лётнішчах, на чыгуначных станцыях на курортах і месцах адпачынку.

Быў пакладзены моцны націск на адказнасьць за апостальства наагул на ўсіх вернікаў — духоўных і сьвецкіх. Трэба выпрацаваць праграмы такой узаемнай місіі, а нават адпаведныя падручнікі. Сьвятар не павінен чакаць людзей ў закрыстыі ці ў сябе дома, але сам мусіць «ісьці і апавядаць эвангельле», як паручыў Хрыстос апосталам.

І зноў узьнікае справа цэлібату духавенства: адчуваецца вялікая патрэба духоўнікаў нежанатых, адданых цалкам Божай службе, а пакліканьне да сьвятарства наагул зьмяншаецца. Людзі дамагаюцца больш сьвятароў, а замала дбаюць пра тое, каб даваць кандыдатаў здатных да духоўнага стану.

✳

РАДЭЗІЯ — АФРЫКА: Арцыбіскуп Гурлей у Дурбан выдаў пастырскі ліст, у якім асуджае белых жыхароў, што адграничваюць чорных ад улады і ад поўных правоў і належных заработ-

каў. Скончыцца тым, што давядуць чорных да роспачы і пачнецца закалот, пакуль белыя ня будуць зусім выкінуты з Родэзіі, як гэта сталася ў Альжыры.

*

ШВАЙЦАРЫЯ: Сусьветная Рада Цэркваў паведаміла, што ў Лібане ў г. Бэйруце адбудзецца экумэнічнае спатканьне хрысьціянаў, гіндуістаў і будыстаў: гэта будзе дыялёг між веручымі; каталікі таксама там будуць

*

ІСТАМБУЛ-КАНСТАНТЫНОПАЛЬ: У Патрыярха Атэнагара І-га быў з візытам кардынал Віллебрандс, Старшыня Сакратарыяту для спраў адзінства хрысьціянаў: гэта быў далейшы паважны крок для злучэньня Цэркваў.

*

АНГЛІЯ — ШКОЦЫЯ: Каталіцкія і англіканскія біскупы пастанавілі апрацаваць аднолькавы рыт Хросту, каб аблягчыць сужыцьцё Цэркваў і вернікаў у выпадках мяшаных сужэнстваў. Будуць выдавацца аднолькавыя пасьведкі аб Хросьце — гэта асабліва памысны пачатак збліжэньня — экуменізму між Цэрквамі.

*

Папа Павал VI ў спэцыяльным лісьце да Рады Каталіцкіх Жанчын у Аўстрыі казаў, што жанчыны павінны ратаваць мужчынаў, каб ня сталіся нявольнікамі тэхнікі і наагул машынаў. Цяпер мужчынам пагражае небасьпека стацца не гаспадарамі, але рабамі бяздушнымі тэхнічных прыладаў, а ў будучыні пагражае поўны ўпадак духовай культуры ў пакланеньне перад тэхнікай. — Трэба забясьпечыць чалавецтва ад сьляпой адарацыі матар'ялізму, — вось якая роля жанчыны! Сьвет патрабуе асьвячаючай любові жанчыны ў сужэнстве, каб захаваць хрысьціянскую годнасьць сям'і.

---

## З нашае мінуўшчыны

Пачынаючы ад гэтага нумару «Божым Шляхам» уводзім сталы аддзел: «З нашае мінуўшчыны». Тут будзем падаваць выняткі з гістарычных дакумантаў і выказы розных аўтараў, асабліва тых, якіх працы сяньня зьяўляюцца рэдкасьцю.

На працягу нашае гісторыі мы мелі вялікія і радасныя падзеі, але такжа і трагічна-сумныя. Некаторыя з нашых гістарычных здарэньняў да сяньня па рознаму апісваюцца самымі беларусамі, (напр. царкоўная Вунія), — гэта не азначае аднак, што мы можам ці павінны выкінуць іх з нашае гісторыі! Усё мінулае нам трэба бесстаронна пазнаць, а ўсё сапраўды вялікае і пазытыўнае мы павінны ўшанаваць і на ім будаваць далей нашую будучыню рэлігійную і дзяржаўную.

Падаваныя тут намі матар'ялы ў першую чаргу маюць на мэце пазнаньне мінулага. Таму будзем даваць факты бяз ніякіх паясьненьняў, паказваючы дакладныя крыніцы, скуль мы іх узялі.

*Рэдакцыя*

*

Кіраўнікі Полацкае краіны зьяўляюцца пад імём ваяводаў каля 1500 году. У 1569 годзе падрабязна вызначаныя правы ваяводаў Полацкіх, што былі абіраныя абыватэлямі, якія падавалі каралю двух кандыдатаў. За ваяводам ішоў кашталян, абодвы яны карысталіся сэнатарскаю годнасьцяй. Месца Полацкіх ваяводаў у сэнаце вызначанае было пасьля Люблінскага ваяводы, значыцца вельмі высокае. Ваяводзтва Полацкае мела права пасылаць па 2 дэпутаты ў галоўны сойм і ў Вялікі Трыбунал Літоўскі. Соймік адбываўся ў Полацку. Гэрб ваяводзтва: коньнік на белым полі. Тутака было ўсяго адно староства Езярышча, што плаціла да скарбу 19.250 зл., за кварты. Казімер Ягялён прыпісаў Полацк да важнейшых гарадоў літоўскіх, з якімі граматаю 1444 г. зраўнаў яго ў правох ды прывілеях.

*

Віцебскія ваяводы згадваюцца каля 1506 г.; гэрб ваяводзтва: на зялёным сьцягу коньнік на чырвоным полі. Віцебск прыпісаны да ліку 15 важнейшых гарадоў літоўскіх граматаю Казімера Ягялёна, дадзенаю ў Берасьці ў 1441 годзе, якою ён надаў гораду розныя правы і прывілеі нароўні з важнейшымі гарадамі літоўскімі Жыгімонт III яшчэ больш пашырыў правы гораду ў 1597 г. ды надаў гэрб Віцебску: на васільковым полі абраз сьв. Вэронікі з чырвоным мячом над ёю. Тутака былі наступныя стараствы: Сураскае, Усьвяцкае, Любашанскае, Аршанскае ды найабшырнае Вяліскае. (21.508 зл. п. кварты).

*

Мсьціслаўскае ваяводзтва ўстаноўленае у 1569 г., ад часу Люблінскага сойму. Адміністрацыйны лад і правы ваяводзтваў у Полацку Віцебску, ды Мсьціславе былі аднолькавыя. Гэрб Мсьціслаўск. ваяводзтва: коньнік на залатым полі. Мсьціславу наданае магдэбурскае права адно 16 жніўня 1634 г.; Магілёў жа дастаў малое магдэбурскае права ў 1561 г ды вялікае пры Баторым 28 студзеня 1578 г. Прывілеі грамадзянаў

Магілёва былі асабліва пашыраныя Ўладыславам IV, што жыў тутака крыху ў часе маскоўскага паходу ды спрыяў жыхарам за дапамогу зброяй, вайсковаю амуніцыяй ды харчамі. У Мсьціслаўскім ваяводзтве былі ўсяго два стараствы: Мсьціслаўскае ды Крычаўскае. Прапойск, Рагачоў, Чачэрск ды Гомель былі таксама стараствамі, з якіх найабшырныя Крычаўскае ды Гомельскае: першае плаціла кварты 28.272 ды гібэрны 10.300 зл. п.; а другое 20.752 зл. п. кварты.

(О. Турчыновіч, Обозрение Истории Белоруссии, Санктпетербург 1857, бач. 297—98

---

# *З беларускага жыцьця*

## УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ Ў ЛЁНДАНЕ

У нядзелю 30 лістапада Лёнданскі Аддзел ЗБВБ наладзіў сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня. У часе акадэміі сп. Г. Пікарда прачытаў па ангельску цікавы даклад аб Слуцкім Паўстаньні паводле тагачаснай ангельскай прэсы і дакумантаў Брытанскага міністэрства замежных спраў.

## КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ

У аўторак 2-га сьнежня ў памешканьні Таварыства Антыквараў у Лёндане а. А. Надсон прачытаў лекцыю на тэму «Беларускія летапісы XV—XVI стагодзьдзяў». Гэта была другая лекцыя ў праграме курсу беларусаведы наладжанага Ангельска-Беларускім Таварыствам.

## ЯЛІНКА Ў ШКОЛЕ СЬВ. КІРЫЛА

У суботу 13-га сьнежня вучні Школы сьв. Кірыла ў Лёндане наладзілі традыцыйную ялінку, на якой былі прысутныя бацькі вучняў, а таксама шматлікія ангельскія і беларускія прыяцелі школы. Была батлейка «Цар Ірад», калядоўшчыкі з зьвяздой, ансамбль дудароў і, безумоўна, Дзед Мароз.

## ДЫСКУСЫЙНЫ ВЕЧАР АБ ЛЮБЛІНСКАЙ ВУНІІ

У пятніцу 18 сьнежня Польска-Украінскае Таварыства наладзіла ў памешканьні Польскай бібліятэкі ў Лёндане дыскусыйны вечар з нагоды 400 угодкаў Люблінскай Вуніі. Польскі былы консуль Трэмбіцкі сказаў, што для яго Люблінская Вунія зьяўляецца асновай ягонага патрыятызму. Паводле ягонай думкі, палякі, беларусы і украінцы павінны злучыцца і цяпер на фэдэрацыйных асновах, каб магчы супрацьставіцца Маскве. Украінец І. Зеленко ў сваім зьмястоўным дакладзе паказаў, як пасьля Люблінскай Вуніі пачалася польская калянізацыя на украінскіх землях. Гэта, а таксама рэлігійная неталеранцыя, прывяло да украінскіх казацкіх бунтаў. Айцец Л. Гарошка прадставіў беларускі пункт гледжаньня. Паводле яго люблінская Вунія была выражэньнем польскіх захопніцкіх тэндэнцыяў на беларускія землі. Вялікае Княства Літоўскае не прыступіла да Вуніі добраахвотна, але было змушана да гэтага — (тут гаворыцца аб «Вуніі» *палітычнай:* палякі хацелі скасаваць Вялікае Княства Літоўскае і гэтага дабіліся!) — ў сілу неспрыяльных палітычных абставін, якія былі выкарыстаны палякамі. Адносна фэдэрацыі з Польшчай ў сяньняшні дзень, дык гэтая прапанова выглядае, быццам беларусам даецца выбар між Салаўкамі і Картузкай Бярозай. Зусім зразумела, што беларусы ня хочуць ні аднаго ні другога. У далейшай дыскусіі Летувіскі прадстаўнік поўнасьцю паўтарыў тое, што сказаў а. Гарошка.

## АНТОН АДАМОВІЧ У ЛЁНДАНЕ

У пачатку студзеня наведаў Лёндан ведамы беларускі літаратуравед і крытык сп. Антон Адамовіч. Мэтай ягонага прыезду быў удзел ў канфэнрэнцыі «Літаратурная цэнзура ў Савецкім Саюзе», наладжанай Інстытутам вывучэньня СССР у часе ад 5 да 7 студзеня. У суботу 4 студзеня сп. Адамовіч меў нагоду спаткацца з Лёнданскімі беларусамі і расказаць ім пра жыцьцё беларускай калёніі ў Злучаных Штатах Амэрыкі.

# Хроніка з Чыкаго

За мінулы год маемо крыху трасянкі-вестак, што сьведчаць аб дзейнасьці нашае калёніі, дык трэба-ж даць разьлік у канцы году.

Найперш высьвятляем фільм «Беларуская Сюіта», які сп. Н. Жызьнеўскі паказаў на Вялікодным Прыняцьці 13. IV, прыгатаваным парахвіянамі царквы Хрыста-Збавіцеля. Фільм паказаў прыгожую панараму беларускіх краявідаў з далёкай нашай Бацькашчыны і здавалася нам, што мы самі там прабываем. Прыгожыя каляровыя касьцюмы і мілагучныя песьні кранаді за сэрца. А нават і народныя танцы, хаця мелі маршовы рытм; а наагул цэлы фільм рабіў добрае ўражаньне на нашых амэрыканскіх парахвіянаў: яны ўбачылі частку нашае краіны з яе музычнай культурай.

На запросіны пачаткавай школы, на прадмесьці Чыкаго ў першыню выступала наша бел. танцавальная група 6-га чэрвеня, пад кіраўніцтвам сп-ні Веры Рамук. Чатыры беларускія танцы зрабілі вельмі добрае ўражаньне. Пасьля танцаў і белар. фільму настаўнікі і вучні той школы ставілі розныя пытаньні аб нашай краіне.

Дзень Матак і Бацькоў у Чыкаго 12. VI. з праграмай: Скеч «Маткі Году» выкананым таночнай групай і скеч «Бацька» выкананы дзецьмі. Дэклямацыя вершаў з нагоды дня, народныя танцы. Партыі з фартэпіянам: Ірэна Мароз, Міхал і Габрыеля Багдан і песьні — Сп-ня Рамук з акампаніямантам Ірэны Рамук. Падаркі: удзельніцам Танцавальнай Групы, якія закончылі пачатковую школу ды сп-ні Тарэсе Тарасэвіч, якая была выбрана «Маткай Году» за заслугі на карысьць танц. групы.

19-га ліпеня — Тыдзень Паняволеных Народаў. Парад у цэнтры Чыкаго: не зважаючы на праліўны дождж, сабралася немалая група. Быў уладжаны рыдван, на якім занялі месца дзяўчаты Танц. Групы ў белар. вопратках. На белар. сьцягу надпіс — «БЕЛАРУСЬ». За сьцягамі ехаў 7-мі гадовы Янка Р. на скутары з плякатам «Свабода Беларусі». Гэта выклікала вялізнае зацікаўленьне сярод гасьцей на трыбуне і гледачоў на тратуарах. Пасьля параду адбыўся банкет у гатэлі «Конрад Гільтон», на якім раздавалі мэдалі заслужаным асобам. Удзел у Тыдні Паняв. Народаў прыймалі: Арганізацыя Белар.-Амэрык. Моладзі, Бел. Танц. Група і Згуртаваньне Беларусаў у Іллінойс.

*

3-га жніўня быў пасьвячаны куплены дом парахвіяй Царквы Хрыста- Збавіцеля, дзякуючы шчодрай помачы сьв. пам. парахвіянкі Маргарэты Ц. Ган.

24. VIII. адбыўся пікнік парахвіян, на які зыйшлося нямала беларусаў і амэрыканцаў. Прыгожая пагода і эфэктоўна ўладжаны стол і сымпатычныя песьні пад акампаньямант здольнага капэльмайстра Язэпа Маля (Малашчук),




які рэгулярна выступае ў тэлев. праграмах, упрыемнілі час.

7-га верасьня затрымаўся праездам у Чыкаго сп. Мікола Нікан з Аўстраліі. На хутка склікатай зборцы ў царк. салі сп. Нікан падзяліўся ўражаньнямі з кругасьветнай падарожы. Асабліва цікавыя былі ягоныя заўвагі з нашай Бацькаўшчыны. Пытаньні і адказы — гутарка працягнулася ў позную ноч.

14-га верасьня, у нядзелю, — дзьве важныя падзеі: пасьля сьв. Літургіі пасьвечаны парахвіяльны гэрб (мазаіка) над уваходам у царкву: узор выкананы ведамымі мозаіцыстамі ў гор. Люкка. Артыстычнае выкананьне гэтага гэрбу было праведзена сп. Янам Боэзэ (вугорцам) у ягоным «Глясс Арт. Студіо» ў Чыкаго.

Пасьля працэсія накіравалася на пляц за царквою, каб высьвяціць месца пад расшырэньне царкоўнага будынку. Былі прысутныя прадстаўнікі прэсы, аб чым было зьмешчана ў «Нью Ворльд».

На прыняцьці ў царк. салі а. Ул. Тарасэвіч прадставіў сп-ню Мары Бак, якая ахвяравала значную суму на выкананьне гэрбу і на пашырэньне будынку ў памяць ейнага памёршага мужа, сп. Вільяма І. Бак.

Пры гэтай нагодзе бел. калёнія разьвіталася са сп-няй Анеляй Дзямідавай, якая пераехала ў Нью Ёрк.

11 і 12 кастр. адведалі Чыкаго д-р В. Жук-Грышкевіч з Канады і д-р Язэп Сажыч з Дэтроіт. Былі праведзены дзьве зборкі, на якіх д-р Жук-Грышкевіч абгаварыў патрэбу арганізацыі Лігі БНР: ў жывой дыскусіі разважалі патрэбу нацыянальнага жыцьця эміграцыі.

Сёлета прыпалі 10-ыя ўгодкі міжнароднай выстаўкі, што адбылася 1 і 2-га лістапада. Беларускі культурны стэнд і кухня цешыліся вялікім посьпехам. Танцав. Група выканала на эстрадзе нашыя нац. танцы, зьбіраючы гучныя воплескі гледачоў. Культ. стэнд ладзіла Арганізацыя Белар.-Амэрык. Моладзі і Згуртаваньне Беларусаў Іллінойс.

Дый сёлета Арганіз. Моладзі абыходзіць 10-ці годзьдзе існаваньня: у гэтым працягу часу сябры бралі ўдзел у розных імпрэзах і ў радыё.

23. XI. пакінуў Чыкаго сымпатык і дабрадзей беларусаў Эдвард Э. Райлі. Адвакат Райлі заўсёды жыва цікавіўся нацыянальным і рэлігійным жыцьцём беларусаў і пяяў у хоры нашае царквы. Чулае разьвітаньне адбылося ў царк. салі. У прамовах былі падкрэсьлены заслугі адваката і ягоных бацькоў для Парахвіі Хрыста-Збавіцеля. На яго просьбу прапялі некалькі беларускіх калядак. Нарэшце дадзена сьвятарскае багаславенства айцамі Янкам і Ул. Тарасэвічамі і прасьпявана «Сто Гадоў!».

*Д-р В. Р.*

# З лістоў у рэдакцыю

АРГЕНТЫНА — БУЭНОС АЙРЭС: Вельмі дзякую за кніжкі нашага дастойнага Айца Гэрмановіча: чытаў я іх з вялікай прыемнасьцяй. У іх сапраўдна асьвятляецца жыцьцё ў Савецкім Саюзе. Даваў чытаць іншым суродзічам у Аргентыне, якія прыехалі сюды ў 1926 г., але яны ня верацъ, што ў такім сусьветным Саюзе маглі здарацца такія факты, як іх апісвае а. Гэрмановіч.

Аднак пазьнейшыя эмігранты — беларусы, украінцы, палякі — гавораць, што такія кніжкі павінны быць публікаваны на ўсялякіх мовах. Гавару тут аб людзях, якія самі прайшлі праз лягеры, як і я, бо я з сям'ёю добра помню лягеры Барнаўлу і Нова Сібірска, дык таму з усім націскам пацьвярджаю, што а. Г. напісаў чыстую праўду і ягоныя кніжкі будуць заўсёды сьведчыць, якое «сонейка» сьвяціла ў савецкім раю.

Далей апішу беларускую эміграцыю з 1924—28 гадоў, калі наехалі сюды з Заходняй Беларусі з польскімі пашпартамі грамады людзей: гэта былі людзі пераважна няпісьменныя, няведаючы ніякае чужой мовы і трапілі ў край, дзе зусім ня было аховы і апекі ў працы; зрэшта і працу знайсьці ня было лёгка. Добра яшчэ, што ў порце спачатку была ўладжана агульная кухня і даставалі крыху ежы. Зара адны трапілі на фабрыкі, дзе ім плацілі, колькі гаспадар хацеў пры цяжкой неабмежаванай працы. Другія пайшлі на палявыя работы — зсякаць кукурузу ці інш.

Але частка іх зьмеркавалі, што тут жыць немагчыма, дык хапаліся абы за што: працавалі дзень-ноч, карміліся абы чым, каб сабраць нейкі грош на паваротную дарогу! Іншым удалося неяк уладзіцца лепш, але частка проста змарнавалася: што зарабілі, зара прапівалі; спалі абы дзе, бо тут цёпла...

Другая эміграцыя была немалая, найбольш іх, як і я, прайшлі праз корпус Андэрса: акрылі сябе хвалай ў абароне (ў Італіі) цудоўнай базылікі Лятэрансакй, далей была Анкона, Болёнія і інш.; але найважнейшая расправа была пад Монтэ Кассіно!

Была нас вялікая грамада беларусаў з пад Вільні, Баранавіч, Берасьця, Беластоку... Шчасьліва, што вырваліся з Расеі! але пасьля колькі пагінула ў баях ці ад хваробаў, хто іх палічыць? Усюды па Італіі на разсеяных магільніках пабачыце нашыя беларускія імёны і фаміліі.

Затое мы, жывыя, ці маглі вярнуцца ў свае родныя сялібы? Эх, дзе там?! Прадалі нашыя старонкі Чэрчыль з Рузвэльтам нягоднаму Сталіну і нам радзілі ісьці ў савецкі «рай»... — Так і пачалася нашая «палітычная» эміграцыя!

Цяпер, як зьбяромся мы, ваякі, ды як пачнём радзіцца, што рабіць дальш, дык даходзім да самых фантастычных мараў і праектаў: то творым моцныя арганізацыі з беларусаў, украінцаў, летувісаў, латышоў, эстонцаў і іншых, дый арганізуем моцны «блёк» усходні, каб стаць мурам супраць савецкай навалы. — То шукаем нейкае падтрымкі ў эміграцыях іншых краёў, то заклікаем духавенства, каб нам памагала арганізавацца і г. д.

Ведама, што толькі так пабядуем і разыходзімся, каб працягваць сваё існаваньне ў няладных буднях...

І яшчэ трэба прызнацца, што робім зборкі ў важнейшых мамэнтах, на якіх выносім вострыя пратэсты супраць несправядлівасьці камуны ў нашых старонках; але ня ведаю, ці хто нашых пагрозаў баіцца? Урэшце вытрывала чакаем, што камуна разьляціцца сама сабой...

На гэтым і канчаю. Пасылаем прывітаньне і віншаваньні Вясёлых Каляд і Шчасьлівага 1970 Году! Каб Бог даў Вам сілы працаваць дзеля Божае хвалы і каб паўстрымаць варожыя моцы, што маглі-б прывесьці да сусьветнае катастрофы. Маемо ў Богу надзею, што пякельнае моцы і людзкая злосьць будуць пакананыя, як сьведчыць памятка Божага Дзіцятка ў Бэтлееме!

*Вацлаў Мароз*

*

УВАГА: Пару гадоў таму ў аргентынскай эміграцкай прэсе польскай і літоўскай велася заўзятая дыскусія, чыя ёсьць Маці Божая Вострабрамская-польская ці летувіская? Цікавая справа, што думалі тыя людзі ў такіх спрэчках? А мо' трэ было яшчэ ў дыскусіі спытацца беларусаў, бо ў Вялікім Княстве Літоўскім урадовай мовай была ні польская, ні летувіская ані расейская, але беларуская. І ў 1626 г. падканцлер Вял. Кн. Літоўскага — Сцяпан Крыштоп. Пац збудаваў касьцёл Сьвятой Тройцы ў Вільні. У гэтым касьцеле быў памешчаны абраз Маці Божае, які пасьля быў у капліцы над брамай, дык называецца «М. Б. Вострабрамская». — Паходжаньне абраза няведамае: пішуць, быццам зьявіўся на муры ў Вільні (у 1491 г.?). А-то кажуць, што абраз ёсьць паходжаньня ўсходняга і што быў калісьці двайны — Дабравешчаньня, але пасьля анёл Габрыель быў адлучаны і гэтая частка абраза загінула. Адным словам, палякі ня мелі ў Вільні значэньня. — З гэтага вынікае, што абраз М. Б. Вострабрамскай ёсьць нацыянальна нэўтральны.

АЎСТРАЛІЯ — ФАІРФІЭЛЬД: З нагоды Каляд і Новага 1970 Году перасылаю Вам і ўсім маім знаёмым найшчырэйшыя пажаданьні: УСЯГО НАЙЛЕПШАГА ад ГОСПАДА БОГА і ад ЛЮДЗЕЙ!

Выглядае, што людзі ёсьць вельмі жывучыя і выводзяць з надта прыкрых сытуацыяў — духова і фізычна — зьбіраюцца ў грамаду.

Адна асоба цяпер вярнулася з Пастаўшчыны і кажа: «Ўсюды пануе расейшчына, скрозь вучаць па расейску, а толькі дзе-недзе трапляюцца і беларускія школы па вёсках. Касьцёл і адна старая царква заменены на гаспадарскі ўжытак, нат' крыжы не зьнятыя! У новай царкве зьбіраюцца людзі, ёсьць сьвятар і там моляцца. Па вёсках моладзі вельмі мала — паўцякалі ў гарады. Асталіся старыя ды брыгадзіры, трактарысты і матарысты ад камбайнаў. Беларускай песьні ня чуваць, ані вечарынаў. Голаду няма, але няма і дастатку. Арышты спыніліся і многія вярнуліся з высылкі. Трудна дастаць дрэва, нат' каб зрабіць калыску для дзіцяці, а калі хто ўкрадзе ў лесе, дык караюць вельмі востра: колькі цэнтымэтраў мае зсечанае дрэва ў каранi, гэтулькі рублёў кары!

Вось як выглядае дзяржава, дзе на паперы прызнаецца «ўлада народу і натуральныя багацьці народу!» У Польшчы крыху лепш, бо шмат памагае заграніца.

А ў Аўстраліі ўсе цяжка працуюць, каб мець добрую хату, аўта і езьдзіць на «голідэй».

Каталіцкія дастойнікі (часам пад бурныя пратэсты) робяць супольныя экумэнічныя набажэнствы з пратэстантамі, а тыя ў сваю чаргу імкнуцца да аб'еднаньня між сабою. А тымчасам нашае гарачае сонца ўсходзіць і заходзіць няспынна; месяц амэрыканцаў не баіцца дый колькасьць зорак ня ўбывае, нат' павялічваецца.

А я зьбіраю грошы на выдавецтва...

Пры гэтым бывайце здаровы! Пасылаю прывітаньне Рэдактару і ягоным супрацоўнікам, асабліва а. Т. Падзяве.

*Я. М.*

*

ЧЫКАГО, 4. XII. 1969.

Учора чыталі мы ў «БЕЛАРУСЕ» Ваш заклік да беларускага грамадзтва ў справе дапамогі для куплі дому. Вітаем ды цешымся з Вашай адважнай ініцыятывы, каб набыць дом для музэю і бібліятэкі.

А сяньня атрымалі Ваш ліст. Думаем, што з Божай помаччу ўдасца Вам давесьці справу да пажаданага выніку. Мець свой музэй, бібліятэку і архіў — гэта вельмі важна з пункту нацыянальнага прэстыжу, для навукі і наагул для падручнай працы і арыентацыі ў сьвеце. А колькі паважных кніжак ці дакумантаў бадзяецца па людзях бяз ніякае патрэбы і карысьці, або запханыя ў скрыні ці ў глухія куткі тлеюць і нішчацца, ня маючы тэхнічна-музэальнае апекі!

Таксама, нам здаецца, варта зьвярнуцца да грамадзтва з заклікам, каб прысылалі розныя матар'ялы — важныя для гісторыі — ў ваш музэй ці архіў.

Гэта ўсё так неабходна для беларусаў, як заклікаў калісьці наш слаўны і незабыўны паэт-патрыёт Фр. Багушэвіч, «каб мы ня ўмерлі!».

*Д-р В. Рамук*

---

## Святочны ліст

Кажны дзень я так заняты —
Ня пісаў: даруй, прашу!
Гэтым часам — перад Сьвятам,
Хоць кароценька, пішу.

Дзякуй Богу, жыў — здаровы —
Сілы хопіць працаваць:
Край багаты — няма мовы —
Можна жыць, не наракаць!

Толькі-ж сумна нек' бывае —
Тут усё зусім ня так:
Я да гэтых абычаяў
Ня прывыкну аніяк!

Што-ж? Аб тым усім ці варта,
Даражэнькі мой, пісаць...
І з Ражством — Хрыстовым Сьвятам —
Вас хачу павіншаваць.

Каб шчасьлівай добрай долі
І здароўя Бог Вам даў!
Каб не плакаў аніколі —
Псальмы ў радасьці сьпяваў!

А найбольш таго жадаю,
Дарагі Прыяцель мой,
Каб у вольным родным краю
Мы спаткаліся з Табой!

*Н-скі*

Масс. 12 сьнежня 1969.

# Думкі з прачытаных кніжак

*«Толькі адзін год» — Святлана Алялуева*

У сям'і, дзе нарадзілася і вырасла, усё было ненармальнае і прыгнятальнае, а самагубства мамы было самым красамоўным сымбалям бязвыходнасьці. Крамлёўскія сьцены навакол, сакрэтная паліцыя ў доме, бязьлітасны чалавек, што адгарадзіўся сьцяною ад старых таварышаў, ад прыяцеляў, ад блізкіх, ад усяго сьвету, што разам з сваімі супольнікамі ператварыў край у турму, дзе каралася ўсё жывое і думаючае; чалавек, што выклікаў страх і ненавісьць у мільёнаў людзей — гэта мой бацька (Сталін).

Нарадзілася ягонай дачкою, у дзяцінстве-ўлюбёнай. Юнацтва прайшло пад знакам ягонага бясспрэчнага аўтарытэту: ўсё прымушала верыць гэтаму аўтарытэту, а калі навакол было гэтулькі гора, то аставалася толькі думаць, што ў гэтым былі вінаватыя другія.

«Нас вучылі камунізму блізка з пялёнак — дома, ў школе, ў унівэрсытэце. Мы былі спачатку акцябратамі, пасьля піянэрамі, пасьля камсамольцамі. Пасьля нас прымалі ў партыю. І калі я не вяла ніякае работы ў партыі (як многія), а толькі плаціла складкі (як усе), дык усёроўна я была павінна галасаваць за кажную партыйную пастанову, нат'калі яна здавалася мне памылковай. Ленін быў нашай іконай, Маркс і Энгельс апосталамі, кажнае іх слова — беспамылковай праўдаю. І кажнае слова майго бацькі, пісьмовае ці вуснае — аб'яўленьнем з неба».

Але пасьля я пачала паступова сумлявацца . . . Тэорыі і дагматы „марксызму-ленінізму'' бляк-нулі і вянулі ў маіх вачах.

Мне станавілася ясна, што ўся сыстэма была глыбока ганебнай і што ніхто з удзельнікаў ня можа ўхіліцца ад адказнасьці, колькі-бы ён ні стараўся.

«Стаўшы відушчым аднойчы, немагчыма прыкідвацца сьляпым. Гэты працэс бачаньня быў для мяне нялёгкім і няскорым. Ён усё яшчэ ідзе. Маё пакаленьне вельмі мала знала гісторыю свайго краю, рэвалюцыі, партыі, ад нас доўга хавалі праўду».

---

# Для цікавасьці і навукі

12 траўня 1969 было прашчэплена сэрца сьвятару-манаху ў Парыжу, а. Булёнь: пражыў з ім 17 месяцаў.

Ён казаў, што паддаўся апэрацыі дзеля поступу навукі і хацеў яшчэ папрацаваць з новым сэрцам, бо старое было ўжо зусім хворае. Некаторыя яму закідалі, што мусіў-бы прыняць лепш сьмерць, чым рызыкаваць супраць Божае волі. Аднак а. Булёнь уважаў, што гэта не забаронена і кажны можа рызыкаваць на сваю адказнасьць.

Пыталіся, ці чуе ў сабе перамену пры новым сэрцы? Адказваў: Так, фізычна пачуваўся добра і нат' не адчуваў у сабе новага сэрца, як нармальны чалавек не адчувае дзейнасьці сваіх здаровых органаў, а толькі чуе, калі які орган бывае пашкоджаны і баліць. Значыць, перамена сэрца не дакучала яму. Нават не адчуваў зьмены ў сваім характары, у прывычках і заганах дый казаў: «На жаль, усе старыя заганы, вады і недахопы асталіся ў мяне нязьменныя!»

Бачым што прыклад а. Булёнь, як і іншых апэраваных, паказвае на недахопы ў навуцы аб новых сэрцах, бо жывучасьць іх нятрывалая . . .

---

# Для Беларускай бібліятэкі і Беларускага музэю у Лёндане купляем асобны дом

Беларусы,

— у Вялікабрытаніі, Францыі, у Злучаных Штатах Амэрыкі, у Канадзе, Аўстраліі, Аргентыне, Бразыліі, у Нямеччыне, Бэльгіі і ў іншых краінах сьвету, — дапамажыце!

Патрэба свайго культурнага цэнтру адчувалася здаўна. Дагэтуль ягоную ролю выконвалі «Марыян Гаўз» і Беларуская школа Сьв. Кірылы Тураўскага. Аднак ужо насьпела патрэба асобнага будынку.

Беларуская Бібліятэка ў «Марыян Гаўз» налічвае больш чым 10 000 кніжак, сярод якіх ёсьць вельмі рэдкія і вельмі цэнныя. Беларускі Музэй, які цяпер займае адну залю, прыдбаў значную колькасьць экспанатаў. Паўстае таксама БЕЛАРУСКІ АРХІЎ, які ўжо налічвае шмат рукапісных і ўнікальных дакумэнтаў. На ўсё гэта патрэбна больш месца.

Таму пастаноўлена скарыстаць з нагоды і купіць дом побач са школай Сьв. Кірылы Тураўскага для Беларускай Бібліятэкі, Беларускага Музэю і Архіву, якія назавём імем нашага вялікага культурніка і сапраўднага беларускага волата, сына слаўнага Полацка, Доктара Францішка Скарыны.

Беларусы!

Мы надзейна чакаем Вашай дапамогі: мы верым у Вашае супрацоўніцтва, бо толькі шчырай канкрэтнай дзейнасьцю мы зможам апраўдаць свой патрыятызм і ўславіць нашу Бацькаўшчыну.

Чакаем ахвяр на Беларускую Бібліятэку і Беларускі Музэй Імя Доктара Францішка Скарыны ў Лёндане.

Ветліва просім прысылаць грошы на адрас:

The Byelorussian Library and Museum,

Marian House, Holden Avenue, London, N. 12.

Обэрон Гэрбэрт
Старшыня Ангельска-Беларускага Таварыства

Чэслаў Сіповіч
Апост. Візытатар Беларусаў

Павал Навара
Старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі

Лёндан, 1. XI. 1969.

# Зварот да Паважаных Чытачоў

Ад Новага Году ўводзяцца некаторыя зьмены ў нашым часапісе. Просім ласкава паведамляць кажную зьмену адрасу, а таксама *зьвяртаць* прысланы часапіс, калі хто з яго не карыстае.

Уводзім нанава *«Нашу Пошту»:* прысланыя падпіскі і ахвяры будзем квітаваць у «Нашай Пошце»; калі хто гэтага не жадае, дык просім загадзя нас паведамляць у лістох да рэдакцыі. Тады будзем квітаваць лістоўна.

Наконт ахвяраў на Белар. Бібліятэку ў Лёндане пры Марыян Гоўз таксама просім ясна адзначаць мэту, на якую ахвяры прысылаюцца.

Таксама кніжкі і экспанаты ў бібліятэку ці ў музэй просім прысылаць на адрас рэдакцыі.

ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ просім ласкава прыслаць падпіску на 1970 год, каб не перарываць высылкі часапісу.

Дзякуем усім, хто выконвае абавязак падпіскі — (больш на гонар, чым з прымусу) — і асабліва тым, хто падтрымлівае звыш падпіскі «БОЖЫМ ШЛЯХАМ». Цешымся ня толькі добрымі радамі і пахваламі, але і больш яшчэ Вашым супрацоўніцтвам і помачай!

Жадаем — пры нагодзе Новага Году — ўсім нашым Прыяцелям «СТО ГОД!» — здароўя, памыснасьці і шчасьлівага павароту ў ВОЛЬНУЮ БАЦЬКАЎШЧЫНУ, калі Бог пазволіць яго дачакацца...

*Рэдакцыя*

---

ЗЬМЕСТ



Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.